# Што нам, беларусам, накукарэкае Вогненны Певень?




# Народная Воля

№ 102 (4149)

30 снежня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


Сяргей ЧЫГРЫН

## Пажаданні ў год Пеўня

Не спыніць цяпер, напэўна,
Нам жыццёвы калаўрот.
Якім выдасца год Пеўня?
Ці шчаслівы будзе год?
Хлеб ці будзе і да хлеба?
Ткацца будуць ручнікі?..
Зычу чыстага вам неба,
Беларусы-землякі!
Без трывог і хвалявання
Няхай будзе новы год.
Больш усмешак і кахання,
Менш загадак і турбот.
Хай пад зоркаю "Пагоні"
Беларусы будуць жыць,
Каб нідзе больш і ніколі
Нам чужынцамі не быць!
Беларусь каб не таптали,
Не дзялілі папалам.
І каб больш не вызвалялі –
Вызваленняў досыць нам…
Беларусы – мой народзе,
Мой спрадвечны, дарагі!
Скінь жа стому ў Новым годзе
Ад пакут і ад тугі!

*г.Слонім.*



НАСТОЯЩИЙ ДРУГ

## Светлана Алексиевич подарила 108 библиотекам подписку на «Народную Волю»



Уважаемые читатели! Мы хотим поделиться прекрасной новостью, которая пришла накануне Нового года в наш редакционный дом: Светлана Александровна Алексиевич, Нобелевский лауреат по литературе, в качестве спонсорской помощи выписала для 108 районных библиотек страны «Народную Волю» на первые полгода 2017 года.

Все годы маленькие библиотеки в провинции экономили именно на нашем издании – по причинам совсем не творческого характера. Хотя мы уверены, что «Народная Воля» привлекла бы в читальные залы многих новых посетителей. Но сдвинуть с мертвой точки проблему мы сами не могли. Помощь пришла от Нобелевского лауреата! В последующие полгода 108 районных библиотек Беларуси будут наконец иметь подшивку «Народной Воли»!

Спасибо Вам огромное, дорогая, уважаемая Светлана Александровна Алексиевич! С Новым годом Вас, наш настоящий друг!

БЛІЦ

## Як вам працавалася і жылося ў 2016 годзе?

**Віктар ДРАЧЫЛОЎСКІ,**
**галоўны аграном СПК «Нарачанскія зоры» (Вілейскі раён Мінскай вобласці):**

– Калі шчыра, то працавалася не вельмі добра, і шмат у чым – з-за абставін, якія не ад гаспадаркі і людзей залежалі. Надвор'е выступіла, як кажуць, фронтам супраць нас. У маі–чэрвені 37 дзён не было дажджу, уяўляеце?! Сітуацыя з пасевамі была практычна крытычная, адпаведна і ўраджай мы недабралі на 30 працэнтаў ад запланаванага.

А ўвогуле год быў для маёй сям'і добры – дачку замуж аддаў. Два дні гулялі ў аграсядзібе пад Радашковічамі…

**Наталля ПРАКАПЕНКА,**
**намеснік начальніка Мінскага гарадскога ўпраўлення Фонду сацыяльнай абароны:**

– Што тычыцца працы, то тут нічога незвычайнага быццам бы не адбывалася. А калі пра асабістае... Я сама нарадзілася ў высакосны год і, калі верыць прыкметам, то ў 2016-м у мяне павінна было скласціся ўсё цудоўна. На жаль, прыкметы – гэта адно, а рэальнае жыццё – зусім іншае. Было шмат праблем у сям'і, і я вам хачу шчыра сказаць, што самае галоўнае – гэта здароўе. Усё астатняе, на мой погляд, дробязі жыцця, якія так ці інакш, але вырашаюцца.

**Таццяна КАСЦЮКОВА, мантажніца радыёапаратуры ААТ «Цветатрон» (Брэст):**

– Як працавалася, так і жылося. А заробкі ў гэтым годзе былі не больш за 230 рублёў у месяц. Вось і мяркуйце самі. Няхай кожны паспрабуе 30 дзён праіснаваць на гэтую суму, і тады ён знойдзе для сябе адказ на пытанне "Як вам жылося?».

Праўда, у нашай сям'і працуюць яшчэ муж і сын, ёсць дапамога з вёскі. Таму агульнымі намаганнямі неяк выжываем. Чакаю 2017 год, калі ўжо буду 500 долараў атрымліваць. Лукашэнка як быццам абяцаў…

**Ігар ЛАГОЙКА, намеснік генеральнага дырэктара ААТ «Крыніца»:**

– Добра спрацавалі, і ўпершыню "Крыніца" выйшла на такія вынікі. Другі год запар маем чысты прыбытак, заробак у адрозненне ад некаторых іншых прадпрыемстваў цэлы год заставаўся стабільны. Да слова, у сярэднім заробак у нас складае каля 830 рублёў у месяц. Летам, як і было запланавана, працавалі ў тры змены. Аб'ёмы на ўзроўні, экспарт таксама і нават крыху павялічыўся… Таму год можна занесці ў актыў.

Іншая справа, што агульная сітуацыя з эканомікай крыху прыгнятае. Хаця ўсе мы ў чаканні лепшага. І, як кажуць, толькі б не было вайны…

**Юрась МЕЛЯШКЕВІЧ,**
**намеснік старшыні руху «За свабоду»:**

– Як жартуе адзін мой таварыш: "2016-ы – апошні год, калі беларусы жылі кепска. Далей будзе вельмі кепска".

А калі сур'ёзна, то гэты год быў для мяне перыядам даволі актыўнага палітычнага жыцця. Прайшла парламенцкая кампанія, сам браў у ёй актыўны ўдзел. І хаця не патрапіў у парламент, радуе, што там з'явіліся прадстаўнікі дэмакратычнай грамадскасці. Адбылося вяртанне апазіцыйных палітыкаў у так званы парламент.

**Аляксандр ВАЙТОВІЧ,**
**загадчык лабараторыі Інстытута фізікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі:**

– Зараз у навуцы працаваць вельмі складана. І практычна нічога ў краіне не прадпрымаецца, каб нешта змянілася ў лепшы бок. Вельмі слабыя фінансаванне, матэрыяльная база… Таму моладзь не вельмі ахвотна ідзе ў навуку, а ў фізіку – тым больш. А калі нехта і прыходзіць, то набіраецца вопыту і адразу думае: дзе б знайсці іншае, высокааплатнае, месца?..

Так, у навуцы цяжка працаваць, але асабіста я атрымліваю ад работы задавальненне. Як быццам пераляцеў у маладыя гады.

**Васіль АШУРОК, галоўны аграном ААТ «Чарлена» (Мастоўскі раён Гродзенскай вобласці):**

– І жылося, і працавалася нармальна. У раслінаводстве першае месца ў раёне заваявалі, тое самае – па вытворчасці азімага рапсу…

У аграноміі ў нас цудоўная каманда сабралася, і што галоўнае – практычна ўсе маладыя. Сярэдні ўзрост – да 30 гадоў. Мне, напрыклад, дваццаць дзевяць, мая жонка, якая, да слова, таксама працуе ў гаспадарцы аграномам, на чатыры гады маладзейшая. Так што ў нас, лічыце, сямейны падрад!

**Франц ЖЫЛКА,**
**бізнесмен, дырэктар кампаніі «Фра-Міл»:**

– Год запомніўся тым, што наша стаматалагічная клініка пераехала ў сваё новае памяшканне. Пашырыўся спектр паслуг. Акрамя таго, мы шыем боты для верхавой язды і роты ганаровай варты, і было некалькі добрых заказаў. Напрыклад, калі ў Мінск у гэтым годзе прылятаў прэзідэнт Туркменістана, ён убачыў нашу прадукцыю на нагах матацыклістаў з прэзідэнцкага ганаровага эскорту. Спадабалася. У выніку адмыслова рабілі 50 пар ботаў для роты ганаровай варты Туркменістана і групы эскорту.

А ўвогуле, вельмі цяжкі быў год, крызіс ударыў па бізнесе. Каб заставацца на плыву, давялося прыкладна на 30 працэнтаў зніжаць кошты на прадукцыю і паслугі нават у доларах. Калі тры-чатыры гады таму тыя ж боты каштавалі 230–250 долараў, то зараз аддаем за 180–200.

**Апытанне праводзіў Алесь СІВЫ.**

ПРАЗДНИЧНАЯ ВСТРЕЧА



Юлия ДЯТКО:

## «Танцевать научу каждого!»

Уже второй год, как заслуженная артистка Республики Беларусь примерила на себя мантию строгого преподавателя – учителя танцев. От взгляда очаровательного танцмейстера не скроется ни одно лишнее или неправильное движение: начиная с ноября, Юлия Дятко обучает искусству танца тех, кто купил билет на Новогодний бал в Большом театре Беларуси и хочет блеснуть в ночь на 14 января сложными и красивыми «па».

– В прошлом году волновалась безумно! Еще бы! Это ведь был мой первый Новогодний бал в Большом! – улыбается Юлия. – Сейчас уже есть какой-то опыт, и работать намного проще.

…Считаю: если человек умеет ходить, то танцевать его точно обучим!

*(Окончание на 2-й стр.)*

КАДРЫ

## Васілій Жарко стаў віцэ-прэм'ерам

Нечаканыя кадравыя перастаноўкі ў вышэйшых эшалонах улады працягваюцца. Учора стала вядома, што віцэ-прэм'ерам па пытаннях сацыяльнай сферы прызначаны **Васілій Жарко,** які ў той жа дзень пакінуў пасаду міністра аховы здароўя. У маі гэтага года Жарко адзначыў 60-годдзе і вось – павышэнне.

В.Жарко медыцынскае ведамства ўзначальваў 10 гадоў, з мая 2006-га. На сённяшні дзень больш за яго ва ўрадзе знаходзіцца толькі намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Сямашка.

Безумоўна, за 10 год у медыцыне было нямала зроблена. Сярод поспехаў – стварэнне 17 рэспубліканскіх навукова-практычных цэнтраў, укараненне ў практыку вялікага спектра высокатэхналагічных аперацый, якія выконваюцца ў розных сферах медыцыны. Але дагэтуль беларуская сістэма аховы здароўя "хранічна хварэе" на дэфіцыт урачоў, чэргі ў паліклініках, невысокія заробкі медыкаў. У некаторых рэгіёнах, як, напрыклад, у Віцебску, гадамі не вырашаецца праблема медыцынскіх даўгабудаў. Так што віцэ-прэм'еру Жарко ёсць куды накіраваць свае сілы і, магчыма, зрабіць тое, што не атрымалася ў міністра Жарко.

Дарэчы, новы міністр аховы здароўя пакуль не прызначаны.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## Анатолий Лаппо назначен председателем Государственного пограничного комитета

Александр Лукашенко отметил, что в преддверии новогодних праздников, которые считаются тяжелой порой для пограничных застав, ведомство не должно оставаться без хозяина, поэтому он принял решение о назначении А.Лаппо.

Генерал-майор Анатолий Петрович Лаппо родился на Могилевщине в д.Кулаковка Белыничского района. В 1986 году окончил Голицынское Высшее пограничное военно-политическое училище КГБ СССР имени К.Е.Ворошилова, в 2001 году – Академию Федеральной пограничной службы Российской Федерации.

С 1981-го по 1992 год проходил службу в Краснознаменном Закавказском пограничном округе КГБ СССР на различных должностях: от рядового срочной службы до заместителя коменданта – начальника штаба погранкомендатуры.

Затем на различных должностях служил в Сморгонском пограничном отряде, а с 2004 года являлся его начальником.

В 2008 году был назначен на должность заместителя начальника главного оперативного управления Государственного пограничного комитета Беларуси, а затем – заместителя председателя Госпогранкомитета – начальника главного управления материально-технического обеспечения.

С 2014 года работал заместителем председателя Государственного пограничного комитета Беларуси.

Награжден государственными наградами СССР и Республики Беларусь, в числе которых медаль «За боевые заслуги», медали «За безупречную службу» I и II степени, орден «За службу Родине» III степени.

ЧУЛІ?

## У Брусель без перасадкі

Кампанія «Белавія» адкрые новы рэгулярны рэйс: Мінск–Брусель. Самалёты будуць лятаць тры дні на тыдзень – па панядзелках, чацвяргах і суботах.

Вылет з Мінска ў 9.40. У аэрапорт Брусель-Шарлеруа самалёт будзе прыбываць у 11.25 па мясцовым часе. Час у палёце складзе 2 гадзіны 45 хвілін. Адваротны рэйс з Бруселя плануецца ажыццяўляць з вылетам у 12.00 і прылётам у Нацыянальны аэрапорт Мінск у 15.40 па мясцовым часе.

Кошт квіткоў у адзін бок складзе ад 89 еўра, уключаючы таксы і зборы, і ад 175 еўра – туды-назад.

**Наступны нумар «Народнай Волі» выйдзе 3 студзеня.**

ФОТА ГОДА



2 ліпеня ў Беларусі прайшоў першы афіцыйны «Дзень вышыванкі».

